

Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.

# Газета Слонімская

№38 (171). 14 — 20 верасня 2000г. Масава-палітычны штотыднёвік http://gs.promedia.minsk.by Кошт 95 руб.


# Слонімец Васіль АПАНОВІЧ камандуе Балтыйскай ваенна-марской базай



Сярод нашых вядомых земляхоў-слонімцаў ёсць і некалькі военачальнікаў. Генерал-лейтэнант Леанід Сямёнавіч Мальцаў быў міністрам абароны Беларусі, а ў апошнія гады жыве і служыць у Маскве, ва Узброеных Сілах Расійскай Федэрацыі. Генерал-палкоўнік Пётр Рыгоравіч Чаус, які таксама жыў і вучыўся на Слонімшчыне, на пачатку 90-х гадоў камандаваў Узброенымі Сіламі Беларусі, якія знаходзіліся на стадыі стварэння. Цяпер ён у адстаўцы, жыве ў Мінску. А на расійскім флоце служыць наш зямляк віцэ-адмірал Васіль Міканоравіч Апановіч.

Васіль Апановіч нарадзіўся ў вёсцы Клепачы Слонімскага раёна 27 сакавіка 1951 года. Закончыў Азярніцкую сярэднюю школу, вучыўся ў Бабруйскім аўтатрактарным тэхнікуме. Калі прызвалі ў армію, прасіўся на флот, аднак Апановіча накіравалі ў танкавыя войскі. Быў камандзірам танка, наместнікам камандзіра танкавага ўзвода. У 1976 годзе Васіль Апановіч закончыў ракетна-артылерыйскі факультэт Калінінградскага вышэйшага ваенна-марскога вучылішча. Служыў камандзірам зенітна-ракетнай батарэі на баявым супрацьлодачным караблі "Узорны". Быў старшым памочнікам камандзіра вартавога карабля "Неўтаймоўны", крэйсера "Кастрычніцкая рэвалюцыя", камандзірам вартавіка "Моцны". Па ацэнках спецыялістаў, яго караблі заўсёды былі ў ліку лепшых. У 1989 годзе Васіль Апановіч на выдатна закончыў Ваенна-марскую акадэмію, з 1990 года служыў камандзірам брыгады дэсантных караблёў. У снежні 1995-га наш зямляк стаў камандзірам дывізіі надводных караблёў Балтыйскага флоту.

У нашага земляка выдатны паслужны спіс: ён датэрмінова атрымаў званні капітан 2-га і капітан 1-га рангаў. Быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі і "За ваенныя заслугі". У 1998 годзе Васіль Міканоравіч Апановіч стаў віцэ-адміралам.

(Працяг на 2 стр.)

ВЁСКА

# Жыхароў Талькаўшчыны хвалююць коні і бабкі

**У выхадныя дні трыццаць пяць жыхароў вёскі Талькаўшчына Слонімскага раёна выйшлі талакою, каб нарыхтаваць на зіму сена для калгасных коней.**

– Назапасілі некалькі вазоў. Але гэтага корму будзе недастаткова, – пры сустрэчы з карэспандэнтамі "ГС" сказаў мясцовы конюх Іван Мушчынскі.

Жыхары гэтай вёскі так упершыню нарыхтоўваюць корм для жывёлы.



*Конюх Іван Мушчынскі*



Фота Віталя Гіля

– Сёння без каня ў вёсцы не пражывеш. У калгасе тэхніка старая, амаль няма бензіну і саляркі. Таму ўся надзея на коней, – пачаў развažаць спадар Мушчынскі. – Вось паглядзіце на бабкі на агародах вяскоўцаў, да сённяшняга дня калгас не можа нам абмалаціць збожжа.

Сапраўды, за хатамі на агародах жыхароў Талькаўшчыны стаяць сотні бабкаў. Бабкі – гэта па дзесяць снапоў жыта, састаўленых пад адной шапкай камлямі ўніз. Яны даўно прасушаныя і чакаюць абмалоту. Па дарозе мы гутарылі і з іншымі вяскоўцамі. Яны крыўдзіліся, што заўсёды да капання бульбы іх збожжавыя ўжо былі абмалочаныя. А сёлета ўсё людское збожжа літаральна пачарнела.

Старшыня калгаса "Кастрычнік" Казімір Харужы сказаў карэспандэнту "ГС", што ў гаспадарцы на сённяшні дзень працуюць толькі два камбайны, якім трэба яшчэ ўбраць з поля 20 гектараў рапсу. Калі ён будзе зжаты, тады абмалоцяць і сялянскае збожжа. "А што датычыць коней, дык яны без корму не застануцца", – запэўніў Казімір Харужы.

Сяргей ЧЫГРЫН

НАВІНЫ

## В октябре будет новая минимальная зарплата

**Размер повышения минимальной заработной платы, которое запланировано с 1 октября нынешнего года, будет определен в течение ближайших двух недель.**

Об этом сообщила БелаПАН заместитель начальника управления оплаты труда Министерства труда Лариса Полозова.

По ее словам, сейчас правительство рассматривает несколько вариантов повышения МЗП и тарифной ставки первого разряда.

## Тарифные гонки

**Постановлением Министерства экономики Беларуси вдвое увеличены тарифы на электроэнергию для населения.**

Теперь население городов, проживающее в домах с газовыми плитами, будет платить 14,4 рубля за киловатт, население городов, проживающее в домах с электроплитами, а также жители сельской местности – 10,4 рубля.

Другим постановлением Минэкономики с 11 сентября на 30 процентов увеличен тариф на тепловую энергию, отпускаемую населению предприятиями концерна "Белэнерго". Стоимость одной гигакалории выросла с 1.452 до 1.887,6 рубля.

## Поравнялись

**11 сентября на основной торговой сессии Белорусской валютно-фондовой биржи (БВФБ) курс доллара США вырос на 13 пунктов и достиг отметки 1.000 рублей.**

До выхода на единый курс Нацбанку осталось сделать буквально несколько шагов.

Дмитрий ВЛАСОВ

## Сумныя вынікі эканоміі

**Рэжым жорсткай эканоміі электраэнергіі ўстанавілі ў Мастах.**

На працягу апошніх трох месяцаў у горадзе ноччу не ўключалі вулічнае асвятленне. Гэта выклікала пратэсты рабочых вячэрняй і начной змены ААТ "Мастоўдрэў". Сітуацыя не мянялася да той пары, пакуль каля прахадной прадпрыемства ноччу не сутыкнуліся на веласіпедах дзве жанчыны. У выніку адна з іх атрымала цяжкія цялесныя пашкоджанні і была змешчана ў бальніцу.

На наступную ноч асвятленне было ўключана на час пераменкі.

Антон МАКЕЙ

## ОТРАВИЛИСЬ МОЛОКОМ

В Лидском районе Гродненской области молочными продуктами отравилось 207 человек.

ПРОДОЛЖЕНИЕ НА 2 СТР.

## ВОЙСКА БУДУТ ПРОВЕРЯТЬ



Глобальная проверка Вооруженных сил Беларуси начнется во второй половине сентября.

ЧИТАЙТЕ НА 5 СТР.

## "МНОГИЕ ЕЩЕ СКАЖУТ: *"Спасибо, доктор, за жизнь!"*

Нельзя остаться равнодушным, прочитав статью "А кто нас пожалеет, кто поймет нашу боль" ("ГС" №38). Вашу боль, Тамара Викторовна, может не понять только тот, у кого вместо сердца – камень.

ПРОДОЛЖЕНИЕ НА 5 СТР.

## «ТЕХНОЛОГИЯ» ГАРАНТИРУЕТ КАЧЕСТВО

Уже почти год в Слониме работает производственное предприятие «Технология». Интервью с его директором

ЧИТАЙТЕ НА 8 СТР.

З МОМАНТУ ЗНІКНЕННЯ ЖУРНАЛІСТА Дзмітрыя Завадскага



# СЛОНІМЕЦ ВАСІЛЬ АПАНОВІЧ
## камандуе Балтыйскай ваенна-марской базай

**(Пачатак на 1 стр.)**

Сёння віцэ-адмірал Васіль Апановіч адказвае на пытанні нашага карэспандэнта.

***— Васіль Міканоравіч, якую пасаду вы цяпер займаеце на Балтыйскім флоце?***

— З 1997 года — я камандзір Балтыйскай ваенна-марской базы, галоўнай базы Балтыйскага флоту.

***— Зусім нядаўна стала вядома пра планы скарачэння расійскай арміі. Ці моцна будзе скарочаны флот?***

— У выступленні прэзідэнта Пуціна прагучала, што Ваенна-марскі флот будзе скарочаны на 50 тысяч чалавек. Аднак мы не драматызуем сітуацыю. Найбольш скарочаны будуць дапаможныя часці, якія забяспечваюць флот, а не злучэнні, якія ўвесь час знаходзяцца ў баявой гатоўнасці.

***— А ёсць неабходнасць у гэтай рэформе, як вы лічыце?***

— Не хацеў бы даваць ацэнкі рашэнню прэзідэнта. Напэўна, яно было прадыктавана нейкімі меркаваннямі, нам невядомымі. Мая ж асабістая думка, што такое рашэнне перадчаснае.

***— Катастрофа падводнай лодкі "Курск" шакіравала многіх. Ці робіцца на расійскім флоце нейкія высновы з гэтай трагедыі, каб яна больш не паўтарылася?***

— Высновы робіць цяпер цяжка. Але я думаю, што канчатковыя высновы зробіць дзяржаўная камісія, якая працуе... Трагедыя страшная. І, як мне здаецца, здарылася яна не без знешніх фактараў. Трагедыя адбылася не па віне экіпажа, які вёў сябе ў той сітуацыі мужна. Я асабіста знаёмы з камандзірам "Курска" і іншымі падводнікамі. Гэта былі прафесіяналы...

Дарэчы, катастрофа "Курска" застала мяне ў Беларусі, у адпачынку. Я бачыў, як перажывалі мае землякі за падводнікаў. Прысутнічаў я і на спецыяльнай паніхідзе ў Жыровіцкім саборы.

***— Васіль Міканоравіч, вернемся да пачатку вашай кар'еры. Калі вы вырашылі звязаць сваё жыццё з морам?***

— Вельмі даўно. Гэта было ў 1968 годзе, пасля заканчэння Азярніцкай сярэдняй школы... Мой брат, Пётр Міканоравіч, быў падводнікам, служыў на Паўночным флоце. Чатыры гады праслужыў на атамнай падводнай лодцы. Цяпер ён жыве на Слонімшчыне. Падводнікам быў і муж маёй старэйшай сястры, беларус з горада Навагельня, кавалер ордэна Чырвонай Зоркі. Напэўна, яны і паўплывалі на мой выбар на карысць Ваенна-марскога флоту.

***— Аднак ваш шлях да мора не быў простым...***

— Як такіх, перашкод не было. Але ў той савецкі час было вельмі цяжка прабіць сабе дарогу. Аднак, нягледзячы ні на што, я таго, да чаго імкнуўся, дасягнуў. Вядома, дзякуючы толькі сваім высілкам, а не чыёйсьці дапамозе.



*Васіль Апановіч прымае рапарт на баявым караблі*

***— Час ад часу ў Беларусі кажуць пра неабходнасць стварэння свайго флоту. Як вы лічыце, магчыма гэта зрабіць сёння?***

— Так, былі размовы пра стварэнне беларускага гандлёвага флоту. У нас была дэлегацыя з Беларусі на чале з віцэ-прэм'ерам ураду. Камандуючы Балтыйскім флотам адмірал Уладзімір Ягораў і я выступілі з прапановай стварыць у брыгадзе марской пяхоты адзін беларускі батальён, а на ваенна-марской базе дывізіён, які б камплектаваўся беларусамі. Аднак пакуль гэтыя нашы ініцыятывы дзесьці глохнуць "на вярхах". Таму цяпер цяжка прагназіраваць, калі з'явіцца беларускі флот на Балтыцы.

***— А ці шмат сёння служыць на Балтыйскім флоце беларусаў?***

— Дакладных лічбаў не магу сказаць. Але думаю, што працэнтаў 20-25. У асноўным, кіруючы склад флоту. На нашай ваенна-марской базе таксама інтэрнацыянальны склад кіраўніцтва, і гэта не перашкаджае нам служыць.

Дарэчы, на пачатку жніўня ў нас праходзілі сумесныя вучэнні войскаў супрацьпаветранай абароны Беларусі і Расіі, якімі кіраваў генерал-лейтэнант Валерый Кастэнка. Усе мішэні для беларускіх супрацьпаветраных сіл запускаліся з маіх караблёў. Усе пытанні і задачы былі вырашаны.

***— Вашу базу наведвалі Аляксандр Лукашэнка і Уладзімір Пуцін?***

— Так. У мінулым годзе прыязджаў да нас Аляксандр Лукашэнка. Ён пасадзіў у нас тут дрэва. Яно расце якраз перад маім домам. А на дзень Ваенна-марскога флоту 30 ліпеня з рук прэзідэнта Расіі я атрымаў ордэн Пашаны.

***— Васіль Міканоравіч, чым вы займаецеся ў вольны час? Ці ёсць у вас нейкае хобі?***

— Я — паляўнічы. Адпачываю на прыродзе. Захапляюся таксама калекцыяніраваннем значкоў. Значкоў з ваенна-марской тэматыкай сабраў ужо каля 500 штук. Думаю, гэтае маё захапленне працягнуць мой сын і ўнук.

***— Ваш сын таксама стаў марскім афіцэрам. Гэта быў яго свядомы выбар?***

— Гэта было яго рашэнне. Цяпер Аляксей старшы лейтэнант, памочнік камандзіра карабля. Мая дачка Алена — студэнтка Балтыйскай дзяржаўнай акадэміі. Дарэчы, і сын, і дачка нарадзіліся ў Слоніме. Са Слоніма родам і мая жонка Ніна Аляксандраўна.

***— А што значыць для вас слонімская зямля? Можа ёсць нейкія асаблівыя, незабыўныя ўспаміны?***

— Хоць я з'ехаў адсюль у 17 гадоў, але гэта мая радзіма. Там мае карані, мяне туды цягне. У мяне на Слонімшчыне сваякі, знаёмыя. У горадзе жыве мая сястра Ніна Міканораўна. Пачынаючы з курсанцкіх часоў я штогод абавязкова бываю на Слонімшчыне падчас адпачынку.

Тры гады назад памерла мая маці, Вера Паўлаўна, а год назад — бацька, Міканор Васільевіч. Бацька быў франтавіком, дайшоў да Берліна. Ён, як адчуваў, за два месяцы перад смерцю аддаў унуку Аляксею свае баявыя ўзнагароды: "Алёша, ты мой адзіны ўнук. Вось табе аддаю свае ордэны і медалі"... Цяпер унук Віцька гаворыць: "Гэта дзеда Міканора ордэны, якія ён пакінуў у спадчыну тату і мне. Пасля свае ўзнагароды аддасць і дзед Вася"...

**Сяргей ЁРШ**



Здымак з сямейнага архіва

*Сям'я Апановічаў каля сваёй хаты ў вёсцы Клепачы*

**НАВІНЫ**

## Будуецца аўтазаправачная станцыя

**На аўтамабільнай трасе Слонім — Баранавічы, каля вёскі Новая Стража, будуецца новая аўтазаправачная станцыя.**



Фота Віталя Гілі

Па словах дырэктара Слонімскай нафтабазы Міхаіла Салаўя, будаўніцтва, якое пачалося ў траўні, закончыцца ў кастрычніку. Мяркуецца, што ў суткі на станцыі можа заправіцца каля 500 аўтамашын.

**Сяргей ЁРШ**

## Лаўрэат прэміі імя Алеся Адамовіча

**У пачатку верасня Беларускі ПЭН-цэнтр узнагародзіў нашага земляка паэта і публіцыста Міхася Скоблу прэміяй імя Алеся Адамовіча.**

Гэту ўзнагароду ён атрымаў за цыкл перадач "Вольная студыя", якія прагучалі на працягу 1999-2000 гадоў на хвалях беларускай службы радыё "Свабода".

Нагадаем, што Міхась Скобла нарадзіўся ў вёсцы Пляжынь Зэльвенскага раёна, недалёка ад Дзярэчына. Выдаў некалькі зборнікаў вершаў, а таксама кнігу "Дзярэчынскі дыярыуш", падрыхтаваў да друку творы Ул.Жылкі і Л.Геніюш.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Будзе стаянка для грузавых аўтамашын

**Пры павароце са Слоніма на Чамяры, за ПТВ-129, будуецца прыватная платная стаянка для грузавых аўтамашын.**

Яе будуе фірма, якую ўзначальвае Валерый Выжэгоўскі. Аб гэтым карэспадэнту "ГС" паведамілі ў аддзеле па землеўладкаванню Слонімскага гарвыканкама.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

**ЗДАРЭННІ**

## Отравились молоком

**В Лидском районе Гродненской области произошло массовое отравление людей.**

С 8 по 10 сентября за помощью к медикам обратились 207 человек — им поставлен диагноз "острое отравление продуктами". 58 человек, в том числе 50 детей, госпитализированы.

Предполагается, что отравление произошло в связи с употреблением продуктов, изготовленных на Лидском молочно-консервном заводе, который в настоящее время закрыт до устранения причин заболевания.

**Ася КУНИЦКАЯ**

## Друкавалі рублі на ксераксе

**Днямі касір Слонімскага філіяла Белаграпрамбанка пры падліку выручкі з мясцовага магазіна "Рамонак" выявіла падробленую купюру вартасцю 1000 рублёў.**

Высветлілася, што фальшываманетчыкі зрабілі яе на звычайным каляровым ксераксе.

## На госця — з нажом

**У Ваўкавыску зафіксавана чарговае забойства.**

Гэтым разам 35-гадовага мясцовага жыхара забіў пенсіянер, якому сёлета споўнілася 65 гадоў. Падчас бурнага застолля з гарэлкай, мужчыны пасварыліся. Чалавек больш сталага ўзросту схапіў нож і стукнуў свайго госця.

**"МВ"**

## Абакраў зямлячку з Пятралевіч

**У панядзелак, 11 верасня, у Слонімскі аддзел міліцыі звярнулася жыхарка з вёскі Пятралевічы.**

Яна паведаміла, што ў выхадныя ў яе хату трапіў невядомы і ўкраў 93 тысячы рублёў. Супрацоўнікі крымінальнага аддзялення ГРАУС хутка знайшлі злодзея. Ім аказаўся 31-гадовы мясцовы жыхар.

## Так і не пакаталіся

**На днях слонімская міліцыя знайшла двух непаўналетніх, якія ўкралі з хлява мапед.**

Крадзёж адбыўся на Палявой вуліцы.

**Валодзя ЯНЧУК**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны: рэдакцыі .........2-14-39
..........(017) 210-87-17
аддзел рэкламы ..........2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць. Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 13 верасня 2000г. Час падпісання 7:00.
Надрукавана ў Слонімскай узбуйненай друкарні, г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.

Падпісныя індэксы: 64042 (індывідуальная) 63818 (ведамасная)
Наклад 9200 экз.
Заказ № 2869

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by

НАВІНЫ

## Вуліцы Ларысы Геніюш у Зэльве пакуль не будзе

**У пачатку жніўня творчая інтэлігенцыя Беларусі і жыхары Зэльвеншчыны звярнуліся са зваротам у Зэльвенскі райвыканкам аб перайменаванні Савецкай вуліцы на вуліцу беларускай паэткі Ларысы Геніюш, дзе яна жыла.**

Нядаўна рэдакцыя "ГС" атрымала пісьмовы адказ ад старшыні Зэльвенскага райвыканкама Леаніда Эльяшэвіча. Ён, у прыватнасці, паведамляе, што "рассмотрев коллективное обращение о переименовании улицы Советской г.п. Зельва и присвоении ей имени Ларисы Гениюш, Зельвенский районный исполнительный комитет сообщает, что по указанному вопросу проводится изучение общественного мнения жителей района. Его результаты будут положены в основу принятого в дальнейшем решения".

Што ж, пачакаем аб чым скажуць зэльвенцы і, вядома ж, райвыканкам.

## Вярнуўся з "Белай вежы"

**Артыст і рэжысёр Слонімскага беларускага драмтэатра Васіль Сявец вярнуўся з Міжнароднага тэатральнага фестывалю "Белая вежа-2000".**



Гэты фестываль праходзіў у Брэсце. У ім прымалі ўдзел артысты, рэжысёры тэатральныя крытыкі з Беларусі і з іншых краін свету. Удзельнікі фестывалю пазнаёміліся з новымі спектаклямі, вырашалі праблемы тэатральнага мастацтва, абменьваліся вопытам.

## Сустрэча ў школе

**У Залацееўскай базавай школе Зэльвенскага раёна адбылася сустрэча з кіраўніком зэльвенскага літаратурнага аб'яднання "Зоры над Зэльвянкай" Пятром Марціноўскім.**

Госць расказаў вучням і настаўнікам пра сённяшні стан беларускай літаратуры, пра пісьменнікаў Зэльвеншчыны і іх творчасць, адказаў на пытанні прысутных.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Бібліятэчная статыстыка

**Сёння на Мастоўшчыне дзейнічае 37 бібліятэк, з іх тры — у горадзе, а астатнія — у вёсках.**

Кніжны фонд бібліятэк складае 536616 кніг.

## У Мастах пашыраецца райкамаўскі аўтапарк

**Старшыня райвыканкама Аляксандр Кісялёў атрымаў у службовае карыстанне аўтамабіль "Шкода".**

А два гады назад гэты кіраўнік займеў службовую "Волгу".

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## З падаткамі не ўсё гладка

**Работнікі Мастоўскага тэрытарыяльна-медыцынскага аб'яднання пры атрыманні апошняга заробку даведаліся, што з іх сумы было вылічана па 30 - 50 тысяч рублёў.**

А паколькі ў медыкаў аклады невялікія, то многія з іх у гэтым месяцы засталіся без сродкаў на існаванне.

Высветлілася, што з пачатку года бухгалтэрыя медаб'яднання няправільна налічвала падаткі з зарплаты. Вось цяпер у людзей і забралі грошы, якія яны зарабілі.

**Антон МАКЕЙ**

# Пра гістарычную памяць беларусаў

**Восьмага верасня на лістку адрыўнога каляндара "Родны край" на 2000 г., выдадзенага ў Мінску, чытаю: "1380 — Адбылася Кулікоўская бітва". Прыпамінаю, што ў гэты дзень адзначаюцца ўгодкі яшчэ адной бітвы — бітвы пад Оршай 1514 года. Можа пра яе пішуць на другім баку лістка? Але там мяне чакалі "мудрасці старажытнай Грэцыі"...**

Так сталася, што гістарычная памяць беларусаў залежыць ад палітычнай сітуацыі ў краіне. Калісьці, на пачатку 90-х гадоў, у першыя гады незалежнай Рэспублікі Беларусь пра бітву пад Оршай даведаліся многія. Даведаліся, што 8 верасня 1514 года 30-тысячнае беларуска-польскае войска гетмана Канстанціна Астрожскага пад гэтым горадам бліскуча разграміла 80-тысячнае маскоўскае войска, якое ўварвалася ў межы нашай краіны. Нашы продкі абаранялі сваю Бацькаўшчыну ад акупантаў і нават не маглі сабе ўявіць, што іх нашчадкі не будуць пра іх згадваць... з палітычных меркаванняў. Сітуацыя, бачыце, змянілася. Цяпер Расія — наш лепшы сябар, і саюз у нас адзін на дваіх. Навошта прыгадваць такія "нязручныя" эпізоды беларуска-расійскіх адносін?..

А, між іншым, 8 верасня, у дзень бітвы пад Оршай, беларускія патрыёты адзначаюць Дзень беларускай вайсковай славы. Найбольш урачыста адзначалася свята ў 1992 годзе. Тады ў Мінску на плошчы Незалежнасці, у прысутнасці дзесяткаў тысяч чалавек, афіцэры-сябры Беларускага згуртавання вайскоўцаў прымалі прысягу на вернасць Беларусі. Гэта быў верасень 1992 года, калі на Доме ўраду быў герб Пагоня, а над ім лунаў бел-чырвона-белы сцяг. Тады будавалася незалежная дзяржава. Пасля ўрачыстага адзначэння Дня беларускай вайсковай славы ў 1992 годзе нашы воіны прысягнулі сваёй Бацькаўшчыне. Пад бел-чырвона-белым сцягам, пад якім калісьці пад Оршай змагаліся з ворагам нашы продкі.

І калі сёння стараюцца не згадваць вяяроў гетмана Астрожскага, якія разбілі "не тое войска", дык не гавораць усёй праўды і пра Кулікоўскую бітву. Правым флангам рускага войска ў той бітве камандаваў полацкі князь Андрэй Альгердавіч, дзве тысячы ратнікаў якога, палачанаў, вытрымалі самы жудасны ўдар татараў. Гэта, бадай, і вырашыла зыход бітвы. Большасць нашых землякоў палегла ў той жудаснай сечы... Але яшчэ за 18 гадоў да таго нашы продкі на чале з Альгердам разбілі татараў на Сініх Водах. Гэта была першая перамога над Залатой Ардой ва Усходняй Еўропе.

**Сяргей ЁРШ**

# Кніга Аляксея Якімовіча пра багоў

У Слонімскай узбуйненнай друкарні выйшла з друку новая кніга нашага земляка Аляксея Якімовіча. Замест рэцэнзіі на яе, карэспандэнт "ГС" папрасіў аўтара кнігі адказаць на некалькі пытанняў.

***— Аляксей Мікалаевіч, раней у Вас выйшлі кнігі прыгодніцка-гістарычных аповесцей, а цяпер раптам — "Пра багоў язычніцкіх". Чаму Вас зацікавіла зусім новая тэма?***

— Кніга "Пра багоў язычніцкіх" яшчэ раз даказвае, што ў дахрысціянскія часы беларусы мелі сваю веру, сваю культуру, якая, нягледзячы ні на што, захавалася і даходзіць да нас. Гэтыя сказы — ушанаванне нашых продкаў, нашых прашчураў. Прачытаем пра багоў язычніцкіх, успомнім пра сваіх прапрадзедаў, і, я ўпэўнены, яны дапамогуць нам не проста выжыць, а, выпрастаўшы спіну, стаць на ногі.




Думаецца, кніга будзе карыснай і для прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, што жывуць побач з намі. Прачытаўшы яе, яны больш зразумеюць і нас, беларусаў, і гісторыю той зямлі, на якой пасяліліся.

***— Кніга выйшла ў Слонімскай друкарні. Хто яе фінансаваў?***

— Найперш я хачу падзякаваць галоўных фундатараў выдання — кіраўнікоў слонімскай фірмы "Тэлкон" Генадзя Бабошкіна і Рамана Мамедава. Не магу не ўспомніць і іншых землякоў, якія, як, гаворыцца, чым змаглі, тым і дапамаглі. Гэта дырэктар нафтабазы Міхаіл Салавей, дырэктар мясакамбіната Алег Бярдула, прадпрымальнік Раман Гіль, намеснік старшыні гарвыканкама Анатоль Бялянін.

***— Дзе слонімцы могуць набыць Вашу кнігу?***

— Гэтае пытанне пакуль вырашаецца. Спадзяюся, што хутка маю кнігу "Пра багоў язычніцкіх" можна будзе купіць у кнігарнях і кіёсках Слоніма.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

фельетон

# Завязу цябе я ў Гімалаі!



Малюнак Яўгена ІВАНОВА

Мужчынская дружба, змацаваная пляшкай, мае трываласць марскога вузла. Ні жонка, ні начальства не зробяць такога дабра, што можа зрабіць сябар. І душу ні перад кім так не расхінеш, як перад ім. Міхась Цвік і Сяргей Цабэрскі ў гэтым пераканаліся не раз. Вось аднойчы яны прыкладіся да пляшкі, і пацякла паміж сябрамі шчырая гаворка.

— Адкрыю табе запаветную мару, — наваліўшыся грудзьмі на стол і ледзь не перакуліўшы пляшку з гарэлкай, таямніча прамовіў Міхась. — Я хачу ў Гімалаі.

— Ат, там горы, — махнуў рукой Сяргей. — Мала што Распуціна расхваліла.

— Гарай, чым тут, не будзе, — недачуўшы, запярэчыў Міхась Цвік. — У нас цяпер найгорай: то засуха, то град, то мароз... Давай лепш вып'ем.

— Выпілі, памаўчалі.

— Глянь! — раптам устрапянуўся Цвік. — Чорцік вунь па дне бутэлькі поўзае. Зялёненькі.

— Я ўжо даўно яго прыкмеціў, — нічуць не здзівіўся Цабэрскі. — Вунь і другі вылазіць.

— Гэта, напэўна, яго жонка. Мне за наклейкай не відаць, — выказаў здагадку Міхась.

— А хочаш, я цябе завязу ў Гімалаі, — не то спытаў, не то прапанаваў Цабэрскі. — Так ужо і быць.

— Давай! — узрадаваўся Цвік. — Возьмем мой "Жыгуль", ты сядзеш за руль, і толькі нас тут бачылі.

Мужчынскае слова цвёрдае. Вось каб яшчэ хада такая. Але нічога! Неяк дабраліся да машыны, усчарэпкаліся на сядзенні.

— А дзе тыя Гімалаі? — не цяміў Цабэрскі.

— Едзь, Баранавічы мінём, там у каго-небудзь спытаем.

Пакуль валюхаліся па пасялковых калдобінах, Цвік задрамаў. Прачнуўся тады, калі Цабэрскі пачаў запавольваць ход.

— Гэта Гімалаі? — з цяжкасцю расплюшчыўшы адно вока, спытаў Міхась.

— Гэта аўтаінспектар, — прашаптаў Цабэрскі. — Што будзем рабіць? Спыняцца?

З Цвіка сон як рукой зняло.

— Ты што? Так мы ў Гімалаі і да вечара не даедзем. Паварочвай направа. Круг дадзім, але нічога, дабяромся. А то яшчэ і ён захоча з намі. Ды цісні ты на газ, не бойся!

І Цабэрскі націснуў, ды так, што "Жыгуль" задрыжэў усім сваім жалезным нутром. Рвануў з месца ў кар'ер. Але і аўтаінспектар не адставаў. Ён уключыў мігалку, сірэну і нёсся ўслед за турыстамі.

— Ого! — азірнуўшыся назад, усклікнуў Цвік. — Во як мы ў Гімалаі едзем. У суправаджэнні міліцыі, нібы якія прэзідэнты.

Раптам да слуху сябрукоў даляцеў гук, вельмі нагадваючы стрэл.

— Мусіць у Гімалаях вайна. Лепш я яго наперад прапушчу, — кіўнуўшы на міліцыйскую машыну, сказаў Цабэрскі. — Але як ён здагадаўся, куды мы едзем? Гэта ж сораму трэба не мець, чужым людзям так нахабна на хвост сесці.

— Гэтыя ўсё ведаюць, канстатаваў Цвік, і раптам ледзь не стукнуўся носам у лабавое шкло, бо Цабэрскі рэзка затармазіў: дарогу ім перагарадзіў аўтаінспектар.

— Дык гэта ж ён і страляў. А мы думалі — вайна. Не бачыць нам цяпер Гімалаяў, як сваёй патыліцы, — засумаваў Цвік.

— А мне і сваіх правоў больш не бачыць...

— А ў мяне іх няма. Машына ёсць, а правоў няма. І не было ніколі.

— Правы ж мае з усімі катэгорыямі: "А", "В", і далей. Ледзь не ўвесь алфавіт, — амаль плакаў Цабэрскі.

— Дык нездарма ж я табе машыну сваю даверыў. Ганарыся! А то расхныкаўся. Вунь ідзе, зараз выцра табе слёзкі.

Дзверы машыны адчыніліся. Ля іх стаяў аўтаінспектар. Ён і паведаміў сябрам, што падарожжа ў Гімалаі адмяняецца і гасцінна запрасіў наведаць міліцыю. Пасля невялікіх фармальнасцей іх паклалі на пухавікі адпачываць.

А раніцай, як прачнуліся... Як успомнілі... Як задумаліся...

— Ну не гаруй, нешта будзе, — стараўся падбадзёрыць сябрука Цвік.

— А ідзі ты... ў Гімалаі! Нешта будзе... Без цябе ведаю, што так не абыдзецца. Абавязкова будзе. Ужо ёсць. А ўсё ты вінаваты, падарожнік, альпініст!

Пазней, супакоіўшыся і параіўшыся, сябры прынеслі і бухнулі на парог дзяржаўтаінспекцыі трохлітровы слоік слёз раскайвання. Абяцалі, што больш ніколі не паедуць у Гімалаі п'яныя, дзякавалі аўтаінспектару, што спыніў іх на паўдарозе, можна сказаць, дадому вярнуў, 'да жонак, у працоўны калектыў. А там, у Гімалаях, яшчэ невядома, як усё склалася б. Мала, што Распуціна расхваліла. Ледзь добрых людзей з правільнага шляху не збіла. Ды гэтым жанчынам наогул нельга верыць! Асабліва, калі ў горы клічуць. Распуціна — у Гімалаі, Ратару — у Карпаты. Не верце!

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

Газета Слонімская
14 — 20 верасня, 2000г. № 38 (171)

## Строго отчитаемся за топливо

**Юридические лица в Беларуси, независимо от формы собственности и ведомственной принадлежности, обязаны будут составить отчеты по показателям топливно-энергетического баланса за 2000 год и представить их в органы государственной статистики до 1 июля 2001 года.**

Постановление об этом принял Совет Министров.

Министерству статистики и анализа поручено до 15 февраля 2001 года утвердить форму отчета по показателям топливно-энергетического баланса и дать методические указания по ее заполнению. Юридические лица до 1 мая будущего года должны быть обеспечены бланками отчета по показателям топливно-энергетического баланса и методическими указаниями по их заполнению. До 15 августа 2001 года Минстат осуществит выборочные проверки достоверности представленных юридическими лицами отчетных данных по показателям топливно-энергетического баланса.

В итоге в Беларуси должен быть разработан отчетный топливно-энергетический баланс всей республики за 2000 год "в целях определения объемов и структуры производства и потребления топлива, тепловой и электрической энергии, эффективности их использования в народном хозяйстве республики".

**Алексей ОРЕШКО**

## В Беларуси проживают граждане более чем 130 национальностей

**В Беларуси, по данным переписи населения 1999 года, проживают граждане свыше 130 национальностей.**

Более всего среди них, разумеется, белорусов – 81,2 процента от общего количества жителей. Три другие наиболее представленные в нашей стране национальности – русские (11,4 процента), поляки (3,9) и украинцы (2,4 процента). Меньше всего – по одному проценту – представителей таких национальностей, как агулы, арчинцы, грузинские евреи, кванадинцы, кереки, крымчаки, нагайбаки, рутульцы, тазы и чулымцы. Кроме того, в Беларуси постоянно проживают 87 испанцев, 75 китайцев, 63 итальянца, 59 англичан, 44 француза, 11 шведов и 6 японцев.

Обращает на себя внимание резкое сокращение в Беларуси количества евреев и увеличение числа русских. Согласно данным переписи 1897 года, евреи были на нашей территории второй по численности национальностью – их удельный вес составлял тогда 13,7 процента. В 1926 году число евреев снизилось до 8,2 процента, в 1959-м – до 1,9 процента, в 1979-м – до 1,4 процента, а в 1999-м – до 0,28 процента. В обратной пропорции возрастало количество русских (с 4,9 процента в 1897 году до 7,7 процента в 1926-м, 10,4 процента в 1970-м и 11,4 процента в 1999-м).

**Сергей СНЕГИН**

## Белорусская оппозиция проводит акцию "Народный референдум"

**7 сентября белорусская оппозиция начала проведение акции под названием "Народный референдум", которая проводится в рамках оппозиционной кампании "Бойкот-2000", направленной против выборов в Палату представителей Национального собрания.**

В ходе "Народного референдума" будут собираться подписи граждан под четырьмя пунктами. Первый из них требует от властей прекратить преследование людей по политическим мотивам, освободить политических заключенных, информировать общественность о судьбе пропавших без вести, гарантировать свободу шествий и митингов. Второй пункт гласит, что никто, кроме парламента, не может принимать законы, обязательные для исполнения, и осуществлять контроль над выполнением государственного бюджета. В третьем говорится о том, что политические партии и общественные объединения должны иметь гарантированный и бесцензурный доступ к государственным радио и телевидению. И, наконец, в четвертом пункте сказано, что избирательные комиссии должны быть независимыми от властей и формироваться из представителей политических партий и общественных организаций.

Эти пункты фактически повторяют требования ОБСЕ к белорусским властям, которые являлись условием участия оппозиции в избирательных кампаниях и признания выборов свободными и демократическими.

**Геннадий БАРБАРИЧ**

## "Марш Свободы — 3"

**"Марш Свободы — 3" пройдет в Минске 1 октября. 7 сентября в рамках Координационной рады демократических сил состоялось первое заседание оргкомитета по проведению этой акции.**

Решено, что "Марш Свободы" начнется в 12 часов шествием от Академии наук по проспекту Франциска Скорины до площади Независимости, где состоится митинг.

Руководителем оргкомитета избран заместитель председателя БНФ профессор Юрий Ходыко.

В беседе с корреспондентом БелаПАН Юрий Ходыко сказал, что письмо с информацией о проведении акции будет направлено в Мингорисполком на следующей неделе. "Мы надеемся, – сказал Ходыко – что атмосфера свободы, которая должна быть установлена в обществе во время выборов, поможет добиться согласия местных властей на проведение акции в поддержку равных, честных, свободных выборов".

**Геннадий БАРБАРИЧ**

## В Беларуси будут присваиваться звания "Мастер сельского хозяйства"

**Правительство Беларуси принимает меры по улучшению обеспечения сельскохозяйственных организаций кадрами.**

Как стало известно БелаПАН, теперь специалистам с высшим и средним специальным образованием, прибывшим на работу в сельскохозяйственные организации по направлениям учебных заведений, в течение двух первых лет работы к их заработной плате должны производиться доплаты в размере одной тарифной ставки первого разряда.

Специалистам с высшим и средним специальным образованием, успешно работающим в сельхозпредприятиях, теперь будут присваиваться звания "Мастер сельского хозяйства I класса" и "Мастер сельского хозяйства II класса". При этом для "первого класса" устанавливается надбавка к должностному окладу в размере 50 процентов, для мастера "второго класса" – 30 процентов.

**Алексей ОРЕШКО**

## Наши кандидаты

**В 110 окружных избирательных комиссий поступили документы 769 кандидатов в депутаты Палаты представителей.**

Такие данные привела 6 сентября на встрече с журналистами в Минске председатель Центральной комиссии Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов Лидия Ермошина.

Таким образом, средний конкурс кандидатов составляет 7 человек на один депутатский мандат. По словам г-жи Ермошиной, плотность кандидатов в различных избирательных округах колеблется от 3 от 14 претендентов на депутатское кресло.

По регионам наибольшая плотность кандидатов в депутаты отмечается в Минске – 160 претендентов на 18 мандатов. На втором месте Минская область – 123 кандидата на 17 округов. В остальных областях сложилась следующая картина: в Брестской области – 113 кандидатов (16 округов); в Витебской – 104 (16 округов); в Гомельской – 101 (17 округов), в Гродненской – 89 кандидатов (13); в Могилевской – 79 кандидатов (13 округов).

Как сообщила Ермошина, из 769 претендентов на депутатское кресло 308 человек были выдвинуты трудовыми коллективами, 334 выдвигались путем сбора подписей, 306 человек были выдвинуты политическими партиями (разница с вышеуказанными цифрами объясняется тем, что некоторые кандидаты выдвигались одновременно двумя способами, – БелаПАН).

**Юрий ПОТЕМКИН**

## ВОЙСКА БУДУТ ПРОВЕРЯТЬ

**Глобальная проверка Вооруженных сил Беларуси начнется во второй половине сентября.**

Об этом на пресс-конференции 6 сентября журналистам сообщил заместитель министра обороны по вооружению – начальник вооружения Вооруженных сил республики генерал-майор Петр Рогожевский. Белорусскую армию будут проверять три комиссии – президентская, премьер-министра и Совета безопасности. Он напомнил о том, что о проведении проверки президентом Беларуси было объявлено 1 марта на совещании с высшим военным руководством страны. "Главное, что будет проверяться, – это как мы сумели сохранить то, что нам досталось, как мы решаем вопросы поддержания боевой готовности", – отметил заместитель министра и выразил большую надежду на то, что существующему положению дел в армии будет дана объективная оценка.

**Вячеслав БУДКЕВИЧ**

ФОТОФАКТ



Фота IREX/ProMedia

*Солдаты белорусской армии ремонтируют трамвайные пути в Минске, август 2000г*

## В АМЕРИКУ НА УЧЕБУ

**Посольство США в Беларуси объявило о начале осуществления программ академических обменов на 2001–2002 учебный год.**

К участию в программе имени сенатора Фулбрайта приглашаются ученые, преподающие в высших учебных заведениях страны и имеющие степень кандидата или доктора наук. В программе обмена "Региональные ученые" могут участвовать специалисты, имеющие кандидатскую степень или работающие над кандидатской диссертацией. На участие в программе имени сенатора Эдмунда Маски имеют право студенты последних курсов высших учебных заведений и лица с высшим образованием. Последний срок подачи заявок на участие в этих программах – 27 октября 2000 года.

До 10 ноября могут подавать заявки на участие в программе студенческих обменов "Акт в поддержку свободы" студенты первых трех курсов вузов Беларуси. 24 ноября – последний срок подачи заявок на участие в программе "Актуальные вопросы современности", в которой могут участвовать сотрудники государственных учреждений, руководители неправительственных организаций и представители профессиональных объединений. Пока не определен последний срок подачи заявок на участие в программе школьных обменов "Акт в поддержку свободы", которая дает возможность учащимся последних двух классов средней школы провести год в США и поучиться в американской школе.

Не только эта, но все перечисленные программы дают возможность гражданам Беларуси поучиться или провести научные исследования в Соединенных Штатах в течение различного времени. Участники берут на себя обязательства по окончании программы вернуться на Родину и не имеют права поменять свой визовый статус в США.

Ожидается, что в новом академическом году бюро по вопросам образования и культуры Государственного департамента США выделит на программы около 40 миллионов долларов, что позволит профинансировать участие в них около тысячи человек из стран СНГ.

Дополнительную информацию можно получить по телефону в Гродно (0152) 33-54-51;

**Алесь АБРАМОВИЧ**

Газета Слонімская
14 — 20 верасня, 2000г. № 38 (171)

# УТРЕННИЙ МОНОЛОГ

Будильник ожил ровно в семь.

Вот, дьявол! Что ж он так надрывается! Сейчас я тебя успокою. Вот так. Ещё бы с полчасика поспать, так нет, – хочешь, не хочешь, а вставай. Ладно... Где тут приёмник. Вот он – только руку протяни. Есть такое дело... О, музычка! Хорошо. И "Юность" – радиостанция что надо. Не белорусское же радио слушать! Там, если не политика, так успехи производства, трудовые будни села или на худой конец репортаж с какой-нибудь всемирной конференции почвоведов-глубоководников Полесья. Нет уж, увольте. Музыка, больше музыки, а проблемы... вон они, только за порог ступи.

Побриться, что ли? Ага, побрился. И за порог ступать не обязательно, – проблемы уже в дом пробрались. Опять воды горячей нет. Так, а холодная... а холодная – ржавая. Чудненько. Не бреюсь, не умываюсь... Ну, слава аллаху, хоть в чайнике чуток воды осталось, на кружку хватит, – чайку, значит, попью.

Гороскоп на сегодня передают. Ерунда всё это. Впрочем... что там для меня звёзды пророчат? Ага, вот. "День не из лучших. Неприятности поджидают вас на каждом шагу. Проведите этот день дома".

Дома... И рад бы, да не могу: с работы нынче проще простого вылететь... И чем это этим дуракам при Советском Союзе хреново жилось? Развалили страну, а теперь, один чёрт, от России – ни на шаг, и снова объединяться удумали... Лукашенко – президент-объединитель. Ха! Весёлый он человек, Ляксандр Рыгорыч наш! Понравилось мне, как он символику государственную менял. Сколько денег народных на этом ухлопал. Но обосновал железно. Наши люди, говорит, за годы Советской власти привыкли к красно-зелёному флагу и гербу БССР... Так ведь за те годы наши люди и к зарплате человеческой привыкли, и к ценам привыкли не с тремя нолями, а с одним – перед "...р. столько-то коп." Что, слабо, Рыгорыч, и это вернуть вместе с гербом и флагом? То-то ж...

Вот и чаёк готов. Только и на работу потопаю. Дождик покрапывает. Это – дело дрянь, зонтик-то мой совсем сломался...

Что это там по радио рассказывают?... Ты смотри, что творится! Чудно погулял малыш. Да где ж это всё было? Ага, в России, на Дальнем Востоке где-то, говорят. Ну, будет пацану что написать в сочинении "Как я провёл лето". Щедрой души, видать, этот двенадцатилетний филантроп. Спёр у швагра 60 штук "зелёных", первую неделю "Марсами", "Сникерсами" всех угощал. Дальше-то он подруге развернулся в своей благотворительности, перешёл на более крупные подарки ребятам постарше: одному на свадьбу денег дал, другому на квартиру, еще две машины помог купить. Тут-то его и вычислили...

А если б у меня такие "бабки" были, что бы я сделал? Хм, кто ж мне их даст. Да и начерта мне столько денег? Вот с сотней долларов я б знал, что делать: раздал бы долги на "полтинник", а остальные... А остальные подождут? Это в анекдоте так, а мне как раз пятидесяти "баксов" хватило бы долги отдать. Ну, а на оставшиеся 50 – день рождения бы свой отпраздновал. Хоть раз в жизни – по-человечески. Да и дата круглая, юбилей – тридцатник уж стукнет...

Да что там говорить! Тут за 30000 "зайчиков" месяц вкалываешь, а уплывают эти деньги за две недели максимум.

Ладно, пора выходить... Ты смотри, как дождик-то разошёлся. Ничего, допрыгаю какнибудь. Ну, вперёд! Хоть бы зима уже поскорей, что ли. Пусть холодно, да сверху капать не будет. О, чёрт! Не дорога – полоса препятствий. Всё, накрылись туфли. Теперь на новые тысяч 10-15 выкраивать придётся. Тьфу, дьявол! А ещё в гороскопы не верил, а оно, видишь, как сбывается, всё один к одному. Чего ж дальше-то ждать?

А-а, хуже не будет, а на лучшее надеяться устал уже... Хотя... Может зарплату сегодня дадут? И хорошо бы они её разика в полтора так подняли; и был бы я тогда вполне счастлив и плевал бы на все гороскопы, природные катаклизмы и политику. Не так уж и много мне нужно...

Так, ровно восемь. В самый раз я пришёл.

– Привет, Михалыч! Ну что, поработаем! А у меня, прикинь, туфля навернулась. Теперь как спортсмен в кедах на работу бегать буду! Закурим, что ли. Держи. Угощаю...

**Валерий КОВАЛЕНКО**

# "МНОГИЕ ЕЩЕ СКАЖУТ:
## *"Спасибо, доктор, за жизнь!"*

**(Начало на 1 стр.)**

Подарить сыну жизнь, вырастить замечательного, здорового парня и внезапно потерять... Уму непостижимо понять, а сердцу невыносимо перенести эту утрату. Кажется, в судьбе перечеркнуто все, все самое приятное, незабываемое. Тяжело найти для Вас слова утешения, их просто в данном случае не существует. Все соболезнования, сочувствия в Ваш адрес – ни что иное, как всеобщее разделение Вашей необратимой утраты.

Я не сомневаюсь, что есть еще один человек, который также переживает за случившееся. Это – хирург. Его душевную боль, уж действительно, не понять никому. Конечно, Вы потеряли родного сына, но для врача он стал не менее родным. Мне кажется, что он тоже, не задумываясь, отдал бы, как и Вы, свою жизнь, если бы что-то в последствии можно было изменить. Хирург "подписал" себе приговор на всю оставшуюся жизнь. И этот приговор суровее самого строгого наказания суда. И не осознавать этого нельзя. Ведь каждый из нас порой преодолевает в своей жизни самые большие трудности, после которых сам себе говорит: "Какой я молодец!". Но и нет в жизни такого человека, который бы не споткнулся, не упал бы на ровном месте, не спросив у себя: "Как это могло произойти?". Я уверен, что все без исключения, кто в своей жизни обращался к хирургу, сегодня, осознав случившееся, сочувствуют ему. Ведь много людей им возвращено к жизни.

Да, незаменимых людей нет, появятся на их месте другие, может, только не скоро. Но вот где гарантия, что и в их профессиональных судьбах не повторится случайное? Хотя, не дай Бог. Не хочу показаться наивным, но не считаться с этим нельзя. Многие из нас вынуждены будут лечь на операционный стол. И я уверен, что многие скажут: "Спасибо, доктор, за жизнь!". Как это делают сегодня все, кто, благодаря хирургам, стал на ноги.

Произошла по истине трагедия, произошла там, где она не должна была произойти, да и в какой день – в профессиональный праздник этого человека. Отныне этот день уже не будет для врача "красным" днем календаря. Этим днем перечеркнуты многие заслуги.

Да, многое негативное сегодня можно говорить в адрес медицины. Она уже далеко не та. Скажу больше – и не ошибусь. Слово "милосердие" в некоторых случаях уже давно заменили на два: "жизнь" или "взятка". Со мною согласятся те, кому хоть иногда доводилось обращаться в областную клинику "Пышки". Попав туда, больному сразу называют цену. Согласны, тогда будем лечить, но без гарантий. Причина этого явления одна – социальная неустроенность людей. Экономическая ситуация в Беларуси сделала медиков буквально нищими. А ведь еще на заре человеческой цивилизации мудрец сказал: "Не дай Бог нам встретить бедного врача".

В жизни все можно забыть, но забыть потерю близких, тем более своих детей, – невозможно. Еще не раз наполнятся глаза матери слезами, еще не скоро утихнет на сердце невыносимая боль, а душа не скоро смирится с горечью необратимой утраты. Невыносимый ужас – видеть себя на Вашем месте. Может, это не самые утешительные слова... Простите.

**Игорь ЮРЕНЯ**

# Фестиваль белорусских геев и лесбиянок прошел в Минске

**7 сентября в Минске прошло открытие фестиваля белорусских геев и лесбиянок – "Гей-Прайд-2000", организатором которого выступил Эдвард Тарлецкий – главный редактор журнала "Forum Lambda" (на снимке).**



Фота IREX/ProMedia

На фестиваль были приглашены гости из Швеции, Финляндии, России, Украины, Казахстана. Планировалась большая развлекательная, культурная программа, включающая семинары, просмотры фильмов, показы мод, концерты... Однако в первый день программа фестиваля была сорвана – в ночном клубе "Аквариум", где должно было проводится мероприятие, отключили свет. Через некоторое время всем было приказано покинуть клуб. Туда была вызвана милиция. На следующий день в пресс-центр "Гей-Прайд-2000" поступил приказ от городских властей немедленно покинуть офис и прекратить деятельность, а также отменить все мероприятия. Только вечером представители оргкомитета получили окончательную информацию о том, что в клубе "Реактор" также отменены все ночные мероприятия.

Не были показаны коллекции одежды Наташи Алексеевой и Якова Каждана, были отменены выступления минских и зарубежных артистов, не смог состояться конкурс "Мисс DIVA-2000" (дрэг-куин) и Первое первенство Беларуси по мужскому стриптизу, на подготовку которого, как и на подготовку других мероприятий, редакцией журнала "Forum Lambda" были затрачены огромные средства. В следующие дни (8, 9, 10 сентября) состоялись все запланированные семинары гостей фестиваля, которые прошли на открытом воздухе в сквирике возле кинотеатра "Смена".

9 сентября завершился второй белорусский форум гей-культуры "Гей-Прайд-2000". Его торжественное закрытие состоялось вопреки противодействию городских властей и чиновников из Администрации президента в одном из минских клубов, принявших мероприятие после того, как клубы "Аквариум" и "Реактор" отказали оргкомитету в предоставлении своих помещений, несмотря на заранее заключенные договора.

**Александра ГРЕЦКАЯ**

# НЕГЛАСНАЯ
## мотивировочка

Согласитесь, очень неприятно, когда за твоей спиной о тебе сочиняют нелицеприятные истории. Если бы недоброжелатели – тогда ясное дело. А если родные и любимые? Муж, например? Одна моя знакомая, дама весьма эмансипированная и эмоциональная, случайно подслушала разговор мужа с приятелем. И подала на развод. А всего-то, что сказал о ней супруг, так это то, что, дескать, его зазноба ненавидит животных. Ей, мол, кажется, что коты и собаки являются источником изумчившей ее аллергии. Ну и что особенного сказал муж? И при чем тут развод? Все просто: моя знакомая весьма дорожит общественным мнением. А в глазах общества не любить животных выглядит по меньшей мере странным. Люди, которые брезгуют "шерстяным" комочком, издающим свое "мяу" или "гав-гав", кажутся большинству жестокосердными занудами. А то и вовсе людьми "без сердца". Одним словом, своим разговором, со слов моей знакомой, "муж подорвал доверие к ней, унизил ее в глазах другого человека. И это непростительно".

Это, конечно, случай крайний. И большинство женщин и мужчин прощают друг другу и не такое. Но... Почему же мы продолжаем сочинять друг о друге всевозможные байки? Откуда такая страсть? И почему эти байки, как правило, не представляют другого человека в возвышенном свете. А, наоборот, в них мы стремимся как бы принизить его? Причем неприятных сравнений и историй гораздо больше придумывают мужчины. А женщинам ох как трудно переубедить, доказать, что все совсем не так.

Психологи давно спорят по поводу мужского и женского соперничества. Сегодня добрая половина женщин по своему социальному и экономическому статусу идет вровень с мужчинами. А то и превосходит их на крутых жизненных виражах. Но почему-то по-прежнему ни в органах власти, ни в экономике, ни на других ответственных направлениях жизни женщины не занимают столько же почетных мест, сколько их соперники-мужчины. И негласная мотивировочка существует: мол, как ни крути, а "они" (женщины) – слабый пол. Кто придумал? Мужчины! А какая еще неправда о нас, женщинах, сидит в их подсознании со времен патриархата и домостроя?

**Мария РИПИНСКАЯ**

